Туркоўскі, Р. Заходняя прэса аб грамадска-палітычнай сітуацыі ў Польшчы ў 1945— 1947 гг. / Р. Туркоўскі // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 6 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск БГУ, 2011. — С. 48 – 55

**Р. Туркоўскі**

# ЗАХОДНЯЯ ПРЭСА АБ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЙ СІТУАЦЫІ Ў ПОЛЬШЧЫ Ў 1945— 1947 гг.

Пасля заканчэння ваенных дзеянняў на тэрыторыі Польшчы ў краіну пачалі прыязджаць прадстаўнікі Захаду, у тым ліку і журналісты розных выданняў. Іх колькасць значна павялічылася пасля стварэння ў чэрвені 1945 г. Часовага ўрада нацыянальнага адзінства і вяртання ў краіну польскіх палітыкаў з эміграцыі. У гэты ж час наступіла і некаторае аслабленне кантролю з боку савецкіх акупацыйных вайскова-грамадзянскіх структур. У краіне пачалося адраджэнне палітычнага жыцця, а яго ўдзельнікі, як і звычайныя грамадзяне, сталі кантактаваць з прадстаўнікамі заходняга свету. На старонках пераважна англійскай і амерыканскай прэсы амаль кожны тыдзень пачала з'яўляцца інфармацыя пра становішча ў Польшчы. Прааналізаваўшы загалоўкі артыкулаў, можна сцвярджаць, што больш за ўсё інтарэс да польскіх спраў праяўлялі англійскія журналісты. Прычына гэтага бачыцца ў зближэнні краін і народаў, якое адбылося падчас сумеснай барацьбы супраць Германіі, росце зацікаўленасці да пасляваеннага лёсу польскай дзяржавы і асабліва рэалізацыі ялцінска-патсдамскіх дамоўленасцей. Больш таго, Вялікабрытанія выступала адным з гарантаў дасягнутых пагадненняў, ажыццяўленне якіх стала справай гонару і паказчыкам пазіцый краіны ў расстаноўцы сіл у Цэнтральнай Еўропе. Англійская палітычная эліта памятала, што менавіта У. Чэрчыль змог дабіцца згоды Сталіна на «30-працэнтны» ўплыў у Польшчы, а таму імкнулася яго максімальна выкарыстаць [1; 2, s. 142—146].

Значна меншую зацікаўленасць Польшчай выказвала амерыканскае грамадства. У ЗША пагадзіліся з тым, што Цэнтральная Еўропа знаходзіцца ў сферы ўплыву СССР, а таму пэўны час не праяўлялі тут актыўнасці [3, s. 99— 100; 4, s. 27]. Прадстаўнікі іншых еўрапейскіх рэдакцый таксама пісалі пра Польшчу нячаста, у тым ліку і па прычыне слабай зацікаўленасці чытачоў. У артыкулах пераважна апісваліся цяжкасці паўсядзённага жыцця насельніцтва, якое прыкладала ўсе намаганні для адбудовы краіны.

**Паўсядзённае жыццё.** У другой палове 1945 г. большасць прадстаўнікоў заходняй прэсы падкрэслівала, што без перашкод можа ездзіць па «знішчанай вайной краіне», і адзінай цяжкасцю з'яўляецца недахоп транспартных сродкаў. Карэспандэнт «The Daily Herald» Ч. Ламберт пісаў, што «прадстаўнікі афіцыйных органаў, колькі б разоў да іх не звяртаўся, выказвалі гатоўнасць аказаць дапамогу». Ён адзначаў, што ўваход у міністэрствы і дзяржаўныя інстытуты «заўсёды быў адкрыты, польскія ўлады не спрабавалі і не фарміравалі майго меркавання, не стваралі цяжкасцей у працы» [5, The Daily Herald. 5. XI. 1945].

Усе апісанні польскага паўсядзённага жыцця пачыналіся з Варшавы, дзе знаходзілася большасць замежных карэспандэнтаў. Згаданы вышэй Ч. Ламберт так апісваў сваё першае сутыкненне з варшаўскай рэчаіснасцю: «Варшава — гэты пануры прывід — адлюстроўвае самы страшны вобраз амаль неверагоднага знішчэння. У 1939 г. у Варшаве жылі 1, 5 млн жыхароў, было 17 тыс. дамоў; у 1944, пасля паўстання, горад быў падвергнуты сістэматычнаму вынішчэнню. Немцы вывезлі ў Прагу [раён Варшавы, які знаходзіцца на правым беразе Віслы. — *Тлум. перакл.*] насельніцтва, якое засталося ў Варшаве, пасля чаго падрывалі дом за домам з мэтай спаліць увесь горад». Апошняе прывяло да таго, што палякі жылі фактычна на руінах, па 10 чалавек у адным пакоі. «Ваду, — пісаў Ламберт, — пераважна брудную, неаб-

**Турковский Ромуальд** — профессор кафедры истории XIX и XX веков Института истории Варшавского университета (Польша), доктор хабилитованый

ходна прыносіць у вядры; адзінае асвятленне — свечка; печка з'яўляецца вялікай рэдкасцю. Пакой звычайна змяшчаецца на другім паверсе, адзіным, які застаўся з былых шасці, альбо ў падвале ці на цокальным паверсе. На 10 жыхароў ёсць 4 двухспальныя ложкі і месцы для яшчэ дзвюх асоб: адно на стале, другое — пад сталом» [5, The Daily Herald. 5.XI.1945].

З падобнай сітуацыяй сутыкаліся ўсе госці польскай сталіцы, большасць якіх жыла ва ўцалелых пасля пажараў гатэлях. Адным з іх быў «Палонія», які застаўся стаяць толькі таму, што ў час вайны ў ім знаходзіўся штаб нямецкай арміі ў Польшчы. У гэтым гатэлі побач з замежнымі журналістамі жылі шматлікія прадстаўнікі польскай палітычнай эліты, што значна аблягчала іх узаемныя кантакты. Як адзначалі госці польскай сталіцы, умовы пражывання і забеспячэння ў «Палоніі» былі цярпімымі, але толькі для тых, хто меў грошы.

У рэстаране гатэля іншаземцы і заможныя палякі маглі «наядацца ікрой, цыплятамі, тоўстымі біфштэксамі і смачным печывам з масляным крэмам». Такія стравы можна было знайсці і ў іншых месцах, але пры наяўнасці грошай. Карэспандэнты часта падкрэслівалі, што простая ежа ў «Палоніі» каштавала столькі, колькі работнік у сярэднім зарабляў за тыдзень.

Усё гэта, аднак, не адлюстроўвала жыцця звычайнага, «шэрага» чалавека ў сталіцы. За дзвярамі «Палоніі» пачыналася рэчаіснасць. Калі ў Варшаве дуў вецер, нос і горла забіваў пыл разбураных і спаленых дамоў, які ў дажджлівы дзень ператвараўся ў балота. «З руін галоўнага чыгуначнага вакзала насупраць "Палоніі", — пісаў Ламберт, — бетонныя слупы, што калісьці падтрымлівалі канструкцыі некалькіх паверхаў, выцягвалі свае "рукі" на фоне шэрага неба, і былі сведчаннем нямецкіх варварскіх знішчэнняў. Вуліцы ж на першы погляд выглядалі «як вялікая гандлёвая зала, у якой першанства мелі гандляры тытунём і хлебам» [5, The Daily Herald. 5. XI. 1945].

У Варшаве існавалі два віды рынкаў: кантралюемы дзяржавай і вольны. На першым кошт тавараў, які размяркоўваўся па картках, быў вышэйшым у 5—6, а на другім — у 100 разоў за даваенныя. Колькасць атрыманых па картках танных прадуктаў харчавання нязначна забяспечвала надзённыя патрэбы палякаў, а таму яны былі вымушаны альбо адмаўляцца ад неабходных рэчаў, альбо купляць іх на вольным рынку. Масла (250 г), напрыклад, каштавала 150 злотых, што прыкладна адпавядала заробку за два з паловай дні; пара ботаў — 5 тыс. злотых ці заробак за 10 дзён; вопратка — 9— 10 тыс. злотых ці 20-дзённы заробак сярэдняга працоўнага. У выніку месяц сціплага забеспячэння невялікай сям'і абыходзіўся ў 8— 9 тыс. злотых. З улікам таго, што сярэдні заробак складаў 2 тыс. злотых, мала хто жыў у дастатку. У пасляваеннай Польшчы амаль усе гандлявалі, бо для большасці гэта быў адзіны спосаб заробку і ўтрымання сябе і сям'і.

Як заўважыў згаданы вышэй карэспандэнт «The Daily Herald», у Варшаве і мужчыны, і жанчыны кружылі «з падносамі, поўнымі пачак розных цыгарэт, у тым ліку "Player", "Camel", "Chesterfield", і імкнуліся прадаць іх з выгадай». На жаль, кошт адной пачкі для большасці людзей адпавядаў заробку за 3 дні. Затое польскае печыва, якое так любіць большасць, прадавалі «па крыху менш накручаных коштах». Палякі мелі невялікія крамы, дзе гандлявалі хлебам і булкамі, спажывецкімі і прамысловымі таварамі. Такі спосаб заробку стаў «надзённым хлебам» для тысяч людзей і дазваляў перажыць цяжкі перыяд [5, The Daily Herald. 5. XI. 1945]. Падобная сітуацыя была характэрнай для ўсёй Польшчы.

Заходнія карэспандэнты звярталі ўвагу, што вялікай пакутай палякаў была камунікацыя. Каб дабрацца да Прагі, менш знішчанай часткі Варшавы, «дзе жыла большая частка жыхароў сталіцы, неабходна была сесці на адкрыты грузавік, дзе ехала чалавек сорак, што носа не ўбіць». Кожны, хто меў які-небудзь «матарызаваны сродак перамяшчэння» і покрыўкі да яго і мог купіць паліва па 70 злотых за літр, добра зарабляў у Польшчы.

На рубяжы 1945—1946 гг. па краіне пачалі хадзіць цягнікі, але падарожжа ў іх было вельмі цяжкім. У адным аддзяленні (купэ) «на адно сідзячае месца было 10 пасажыраў, на каленях якіх сядзелі іншыя 10 пасажыраў, а ў вольным месцы паміж падвойнымі радамі каленак

стаялі людзі. Найбольш смелыя ехалі на даху. Падарожжа, якое раней займала 4 гадзіны, зараз працягвалася суткі і нават больш». Прадстаўленая такім чынам інфармацыя дазваляла жыхарам Захаду зразумець умовы жыцця палякаў і як вынік прывяла да наплыву ў Польшчу легкавых і грузавых машын, рознага роду аўтобусаў з Заходняй Еўропы. У гэтай сувязі найбольш камфортнымі былі падарожжы на невялікіх лініях, якія абслугоўваліся аўтобусамі далёкага накіравання. Аднак і на гэты транспарт не заўсёды можна было разлічваць, бо «каб даехаць да іншага месца, трэба мець альбо вялікі ўплыў, альбо шмат цярпення». Пошук сродкаў пераезду стаў у Польшчы істотнай праблемай. Распаўсюджанай з'явай быў подкуп шафёраў, якія дазвалялі людзям ехаць «паверх тавару, які вёз» [5, The Daily Herald. 5. XI. 1945].

У шматлікіх рэпартажах падкрэслівалася вытрымка духу польскіх грамадзян, які, нягледзячы на цяжкі быт, заставаўся нязломным. У Варшаве, напрыклад, у гатэлі «Палонія» кожны дзень граў аркестр. На танцавальнай пляцоўцы было шматлюдна, але элегантна апранутых людзей, як і новай вопраткі, было мала.Назіральнаму журналісту «The Daily Herald» падавалася, што «ўсе жанчыны маюць добрыя, шоўкавыя панчохі», якія нібыта «можна заўважыць толькі імгненнем вока падчас танца, калі яны мільгануць паміж высокім галянішчам бота для коннай язды і вельмі кароткай спадніцай ці сукенкай». Тым не менш людзі памяталі пра не так далёкае мінулае і таму часам танцы перарываліся, а аркестр іграў песню «Варшава зноў паўстане», якая стала хітом 1945 г. [5, The Daily Herald. 5. XI. 1945; 6, s. 112— 113].

Падобнага роду прыязныя палякам і Польшчы рэпартажы былі характэрнымі для шматлікіх выданняў на Захадзе. Узрушанае інфармацыяй заходняе грамадства як магло дапамагала зруйнаванай Польшчы. У краіне ўсё больш з'яўлялася прадстаўнікоў гуманітарных арганізацый, высланцаў хрысціянскіх канфесій, назіраўся прыток прадуктаў харчавання, лекаў, адзення, што дапамагло выратаваць сотні тысяч людзей. На рубяжы 1945—1946 гг. у краіну пачала прыходзіць дапамога ЮНРРА, кошт якой дасягаў амаль 500 млн амерыканскіх долараў. Вялікую ролю ў гэтым адыграла прэса, якая ўплывала на думкі жыхароў Заходняй Еўропы.

**Пытанне рэарганізацыі партыйнай сістэмы ў Польшчы.** Стварэнне С. Мікалайчыкам і яго прыхільнікамі ў жніўні 1945 г. Польскага стронніцтва людовага (ПСЛ) выклікала шчырую зацікаўленасць у Заходняй Еўропе, асабліва ў Вялікабрытаніі. Гэты палітык там быў добра вядомы, а таму грамадская думка і брытанскі ўрад з інтарэсам сачылі за паспяховасцю яго супрацоўніцтва з камуністычнай партыяй.

У другой палове 1945 г. брытанскія журналісты ўстрымліваліся ад каментарыяў аб палітычных пераўтварэннях у Польшчы і змяшчалі толькі невялікія данясенні, аднак пазней актывізавалі сваю дзейнасць. Яны сцвярджалі, што пасля вяртання Мікалайчыка на радзіму ў краіне адбываюцца «вялікія перамены» і назіраецца сутыкненне англійскай і савецкай канцэпцый дэмакратыі [5, The News Chronicale. 8. IX. 1945]. Спробы палітыка ўваскрэсіць даваенную сялянскую партыю яны лічылі актам палітычнай адвагі. Журналісты адзначалі, што прапанаваная ПСЛ ліберальная праграма знайшла масавы водгук сярод насельніцтва, але існуюць пэўныя цяжкасці. Тым не менш, на іх думку, гэта было першае вялікае выпрабаванне рэальнасці польскай дэмакратыі. Ад моманту ўзнікнення партыя дабівалася рэалізацыі ліберальнай палітыкі ў пытаннях асноўных грамадзянскіх правоў, ліквідацыі тайнай паліцыі, вяртання свабоды друку. Журналісты звярталі ўвагу на яе крытыку зямельнай рэформы, што праводзілася Польскай рабочай партыяй (ППР) і вяла да драблення аграрнай структуры краіны і прапанаваных камуністамі праектаў нацыяналізацыі. «Усё гэта, — пісаў карэспандэнт “The Observer”, — можа выклікаць вялікія цяжкасці для ПСЛ і стаць прадметам вострай крытыкі з боку кіруючых у Польшчы партый». У брытанскай прэсе пераважала меркаванне аб неабходнасці падтрымкі існуючага палажэння ў Польшчы. Мікалайчыка перасцерагалі перад магчымым разрывам саюзу з рабочымі партыямі і выкарыстаннем грамадскай незадаволенасці ва ўмовах «знаходжання [у краіне] савецкіх часцей», калі «выключэнне з урада камуністаў можа выклікаць напружанасць... і савецкую інтэрвенцыю» [5, The Observer. 16. XII. 1945].

Левая брытанская прэса была ўпэўнена, што толькі дзякуючы «камуністычным міністрам, урад атрымаў прызнанне СССР і можа рэалізаваць Ялцінскія пагадненні». Карэспандэнты лічылі, што прадстаўнікі ППР у кабінеце міністраў з'яўляюцца больш здольнымі і менш кансерватыўнымі, чым сацыялісты, маюць большае разуменне сялянскіх праблем. На думку гэтай групы брытанскіх журналістаў, прысутнасць камуністаў ва ўрадзе з'яўлялася гарантыяй падтрымання сяброўскіх адносін з Расіяй, а таму іх нельга выдаліць з кабінета без пагрозы для будучыні Польшчы. Што тычыцца ацэнкі настрою польскага грамадства, то яны адзначалі, што «польскі народ у цэлым не разумее ролі камуністаў». Падобным чынам ацэньвалася імі дзейнасць Мікалайчыка і яго партыі, якая «несвядома, а часам нават свядома, імкнулася зменшыць уплыў ППР у апараце ўлады». Брытанскія левыя журналісты пераважна гаварылі пра неабходнасць падтрымання кааліцыі, якую не павінна парушыць нават магчымая перамога Мікалайчыка на выбарах, і выступалі супраць публічнай падтрымкі Захадам гэтага палітыка, бо лічылі, што яна магла прывесці да праблем у яго дзейнасці і ўзмацнення жорсткасці камуністаў. Яны хутчэй разлічвалі на эвалюцыю палітычнай сістэмы ва ўмовах натуральнага ціску ўнутраных сіл, якія мелі шмат спосабаў для ўздзеяння. Лічылася, што ПСЛ у сілу сваёй традыцыі заўсёды было «дэмакратычным стрыжнем народу», а таму з'яўляецца важным элементам палітычнай гульні [5, The Observer. 16.12.1945].

У сваю чаргу ў данясеннях варшаўскіх карэспандэнтаў брытанскіх кансерватыўных выданняў узнікненне ПСЛ ацэньвалася пазітыўна. Лічылася, што ў Польшчы аднавілася шматпартыйная сістэма, а палітычнае жыццё стала больш разнастайным. Гэта праявілася, як адзначыў адзін з журналістаў, на старонках польскай прэсы «ў выглядзе дастаткова адкрытых палемік і дыскусій, якія, праўда, кантралююцца ўрадам» [5, The Tribune. 14. XII. 1945].

Найлепш польскае жыццё бачылі паслы Вялікабрытаніі і ЗША, якія ў дакладах для сваіх урадаў крытычна ацэньвалі развіццё палітычнай сітуацыі. Пасол Вялікабрытаніі В. Кавендзіш-Бенцік апісваў «тэрор УБ» [упраўленне бяспекі. — *Тлум. перакл.*] у дачыненні да дзеячаў ПСЛ і цяжкасці ў дзейнасці гэтай партыі [7, s. 138, 141, 142]. Такая ацэнка дыпламатычнай службы выклікала крытыку ў яе адрас. Газета «The Economist», ацэньваючы перададзены польскаму ўраду ў сувязі з тэрарыстычнымі дзеяннямі УБ пратэст брытанскага пасла, сумнявалася ў яго аб'ектыўнасці і задавалася пытаннем наконт шырыні і рэпрэзентатыўнасці кантактаў пасольства, каб на іх абапірацца. У ёй адзначалася, што прадстаўленыя факты з'яўляюцца аднабаковымі і няправільна ацэньваюць сітуацыю ў краіне [5, The Economist. 8. XII. 1945].

**Стаўленне да пытання адтэрміноўкі правядзення парламенцкіх выбараў у Польшчы.** Заходняя грамадская думка з нецярпеннем чакала абвяшчэння даты правядзення выбараў у польскі Сейм. На пачатку 1946 г. Польшчу наведала дэлегацыя брытанскіх парламентарыяў, дзейнасць якой падрабязна асвятлялася ў друку. Прысутныя ў яе складзе маёр Т. Беміш і маёр Конант лічылі, што «як толькі пачне дзейнічаць адміністрацыйная машына, польскі народ павінен выказаць сваё меркаванне ў важных і неабмежаваных выбарах і такім чынам абраць урад, які будзе адлюстроўваць польскую пазіцыю». Парламентарыі выступалі за тое, каб «ясна сказаць, што выбары, праведзеныя ў адпаведнасці з сістэмай стварэння блоку, нават калі б ён быў намінальна падтрыманы ўсімі партыямі, у існуючых умовах не могуць лічыцца "свабоднымі выбарамі" ў разуменні дамоўленасцей Крымскай канферэнцыі». Яны прапанавалі стварыць Міжнародную камісію, у склад якой увойдуць «прадстаўнікі трох вялікіх дзяржаў, якія шчыра дамагаюцца вольных і неабмежаваных выбараў» і «будуць кантраляваць адпаведнасць іх правядзення». Брытанскія парламентарыі канстатавалі існаванне з'яў, якія выклікаюць занепакоенасць і сведчаць пра тое, што «пры існуючым рэжыме дэмакратыя і свабода, так як мы іх разумеем у нашай краіне, не існуюць». На іх думку, большасць палякаў чакае дапамогі з боку Вялікабрытаніі і ЗША ў пытанні «фарміравання мірным шляхам сапраўды дэмакратычнага ўрада, які б быў незалежным ад якога-небудзь чужога кантроля ці

ўплыву». На практыцы, сцвярджалі дэпутаты, сацыялістычна-камуністычная палітыка ў Польшчы праводзіцца са «значным выкарыстаннем паліцыі бяспекі і моцнай цэнзуры», а некалькі лідараў ПСЛ «былі нядаўна забітыя». Для англічан было відавочным, што ў выпадку паражэння камуністаў на выбарах існуе «рызыка ўзнікнення сур'ёзных клопатаў з боку экстрэмісцкай левіцы, якая можа знайсці падтрымку ў Расіі» і сілай утрымаць уладу. Гэтая барацьба з прыхільнікамі заходняй мадэлі дэмакратыі ўскладнялася тым, што ППР і Польская сацыялістычная партыя (ППС) «кантралявалі ўрад у Польшчы, а іх члены, за невялікім выключэннем, займаюць найбольш важныя пасады ў дзяржаўным апараце. Адзіным выйсцем для ПСЛ і хадэцкага Стронніцтва працы Караля Попеля стала б дасягненне кампрамісу з камуністычнымі лідарамі ў пытанні правядзення свабодных выбараў», падчас якіх польскі народ змог бы вырашыць «склад свайго новага ўрада» [8, k. 64— 69]. Такая ацэнка сітуацыі ў Польшчы выклікала крытыку ў брытанскай прэсе і незадаволенасць тых польскіх палітыкаў, якія прытрымліваліся рашэнняў Крымскай канферэнцыі.

У сваю чаргу сімпатызуючыя камуністам журналісты падтрымалі пазіцыю дэлегацыі Палаты абшчын, якая, як лічылі, адпавядала рэальным суадносінам сіл у Польшчы. Сярод карэспандэнтаў такія настроі былі найбольш характэрнымі для прадстаўніка штотыднёвіка «The New Statesman and Nations» Зілакуса (Zillacus). Ён крытыкаваў брытанскага пасла ў Варшаве за аказанне «рознага роду ціску на Мікалайчыка, каб той разарваў з урадам і паспрабаваў забяспечыць сабе незалежнасць падчас выбараў» [5, The New Statesman and Nation. 13. IV. 1946]. Як лічыла антыкамуністычная брытанская прэса, падобнага роду атакі былі інспіраваныя кіруючымі сіламі ў Варшаве, якім нібыта Зілакус служыў [6, s. 103—104, 129—131, 136]. Дарэчы, гэты журналіст крытыкаваў і Дзяржаўны дэпартамент ЗША, які «заявіў палякам, што яны атрымаюць амерыканскую пазыку толькі пасля правядзення выбараў і ўвядзення эканамічнай палітыкі, якая адпавядае амерыканскім поглядам» [5, The New Statesman and Nation. 4. V. 1946]. У сваіх матэрыялах ён пісаў, што заходні бок пагражаў блакадай паставак у выпадку, калі Мікалайчык і яго партыя будуць выключаны з палітычнага жыцця Польшчы. У хуткім часе гэтая інфармацыя пацвердзілася.

Сімпатыю левай прэсы, як і часткі брытанскіх палітыкаў, да СССР і яго саюзнікаў у Польшчы заўважыў былы міністр замежных спраў у эміграцыйным урадзе Мікалайчыка А. Ромер. Ён выступіў у абарону палітыкі Вялікабрытаніі і заявіў, што «брытанскі пасол не аказваў ціску на Мікалайчыка ў пытанні барацьбы за свабодныя і неабмежаваныя выбары. Мікалайчык ніколі не меў намеру разарваць кааліцыйны саюз. Наадварот, ён і яго сялянская партыя хацелі, каб і пасля выбараў дзейнічала кааліцыя. Адзінае, ад чаго Мікалайчык адмаўляўся, гэта былі прапановы камуністаў і іх прыхільнікаў па выключэнню свабоднай барацьбы партый і стварэнню адзінага выбарчага спісу, што характэрна для таталітарных дзяржаў» [5, The New Statesman and Nation. 20. IV. 1946].

Вялікі непакой на Захадзе вясной 1946 г. выклікала чарговая адтэрміноўка выбараў у польскі парламент. Амерыканскія і брытанскія выданні правага і цэнтрысцкага спектра бачылі ў дзеяннях польскіх улад руку Масквы і з такой пазіцыі фарміравалі заходнюю грамадскую думку [5, The Manchester Gurdian. 6. V. 1946, The Times. 17.VI.1946]. У падобным тоне гучалі і выказванні пасла ЗША А. Блісс-Лэйна, які ў сваіх успамінах прадставіў у дастаткова негатыўным выглядзе падзеі ў Польшчы [9, p. 97—99; 7, s. 136— 137, 138—167]. У сваю чаргу італьянскі пасол камуніст Э. Рэале аб'ектыўна і амаль без эмоцый імкнуўся паказаць сітуацыю ў краіне. Ён ацэньваў палажэнне, у якім знаходзілася ПСЛ, як цяжкае, адзначаў памылкі абодвух, камуністычнага і некамуністычнага, бакоў, аддаючы перавагу дэмакратычнаму лагеру. Гэта спрыяла фарміраванню прыхільнага стаўлення італьянскага грамадства да народнай Польшчы. Больш таго, інфармацыя для прэсы, якую Рэале перадаваў, пазітыўна ўздзейнічала на палякаў, якія знаходзіліся ў Італіі. Шмат хто з іх, асабліва салдаты II корпуса Польскай арміі, вырашыў вярнуцца на радзіму [10, s. 47— 48].

**Пытанне рэферэндуму 30 чэрвеня 1946 г.** Важным паказчыкам праўдзівых намераў камуністаў і кіруемага імі Дэмакратычнага блока стаў спосаб правядзення рэферэндуму ў Польшчы. Напярэдадні галасавання заходняя прэса ўсё часцей згадвала пра масавыя арышты прыхільнікаў С. Мікалайчыка. «Лідар Польскага стронніцтва людовага, — пісаў карэспандэнт “The Times”, — сёння заявіў, што больш за 1200 членаў яго партыі былі арыштаваныя, з якіх 700 чалавек толькі ў Познані. Ён таксама адзначыў, што яго партыя не можа свабодна праводзіць перадвыбарчую кампанію, але выказаў спадзяванне, што выбары пройдуць добрасумленна» [5, The Times. 29. VI. 1945]. У той жа газеце падкрэслівалася, што «падпольныя арганізацыі вядуць кампанію супраць рэферэндуму. Некаторыя патрабуюць ад насельніцтва галасаваць адмоўна па ўсіх трох пытаннях, а іншыя пагражаюць будучым выбаршчыкам... Старшыні дзвюх выбарчых камісій — адзін недалёка ад Варшавы, а другі — Любліна, былі застрэлены тэрарыстамі. Асабліва жорстка кампанія супраць рэферэндуму праходзіць ва ўсходніх і паўночных раёнах Польшчы» [5, The Times. 29. VI. 1945].

Пасля рэферэндуму і пратэстаў Мікалайчыка супраць фальсіфікацыі яго вынікаў заходняя прэса імкнулася аб’ектыўна адлюстраваць падзеі. Карэспандэнт «The Times» пісаў: «Падаецца малаверагодным, што ўрад задаволіць патрабаванне Мікалайчыка прызнаць вынікі галасавання несапраўднымі па прычыне фальсіфікацыі. Пры падліку галасоў назіраліся факты, якія выклікалі непакой. У існуючай у Польшчы сітуацыі немагчыма меркаваць, што ўрад можа дазволіць сабе паражэнне. Нельга сказаць, што рэферэндум стаў крокам наперад ва ўмацаванні пазіцый урада як унутры краіны, так і за яе межамі. Рэферэндум паказаў, што выбары могуць прайсці добрасумленна. Польскі ўрад даўно ўзяў на сябе абавязак правесці выбары, у якіх польскі народ выкажацца па пытанні яго складу, а не палітыкі. Па-ранейшаму застаецца актуальным, каб усе легальныя партыі ў Польшчы мелі магчымасць падрыхтаваць і прадставіць свае выбарчыя спісы, выставіць сваіх кандыдатаў» [5, The Times. 2.VII.1946]. Такую пазіцыю падзялялі і памяркоўныя палітычныя колы ў Вялікабрытаніі.

**Стаўленне да камуністычнага тэрору ў дачыненні да палітычных праціўнікаў.** Пад уплывам скаргаў, якія дасылаў лідар ПСЛ, 19 жніўня 1946 г. правячыя колы ЗША і Вялікабрытаніі даслалі польскаму ўраду афіцыйныя ноты пратэсту супраць спосабу правядзення галасавання. Амерыканскі пасол пісаў, што рэферэндум стаў падрыхтоўчым крокам да выбараў, але выкарыстаныя падчас яго правядзення метады сведчылі пра тое, што наступнае галасаванне можа быць праведзена нядобразычліва [11, s. 264—269]. Амерыканская нота выклікала рэзананс і дыскусію ў нацыянальнай прэсе, але значна больш абмяркоўвалася ў гэты час брытанская нота, у якой гаварылася пра сур’ёзныя адхіленні ад дэмакратычных норм. Пасол Вялікабрытаніі пісаў, што «шмат прыхільнікаў Польскага стронніцтва людовага, якое легальна існуе і мае права на палітычную дзейнасць, было арыштавана незадоўга да рэферэндуму», а ПСЛ і Стронніцтва працы вельмі часта не мелі «сваіх прадстаўнікоў у выбарчых камісіях». Больш таго, у пытанні дэмакратычнага права «на свабоду сходаў і публічных выказванняў у сувязі з рэферэндумам» іх трактавалі горш у параўнанні з іншымі партыямі, а як мінумум у «пару месцах армія галасавала калектыўна без захавання ўмовы тайнасці». Пасол таксама звяртаў увагу на тое, што назіралася «ўмяшальніцтва ў працэс падліку галасоў пасля вынясення урнаў з памяшкання, што супярэчыць закону аб рэферэндуме» [5, The Manchester Guardian. 21.VIII.1946].

Справай рэферэндуму занялася брытанская Палата абшчын. Па выніках яе працы прэсе была перададзена нота, дзе адзначалася, што «ў Польшчы назіраліся палітычныя праследаванні, ахвярай якіх стала ПСЛ». У гэтай сувязі Вялікабрытанія «не можа лічыць рэакцыянерамі тых, хто не жадае далучыцца да камуністычнага блоку. Брытанцы... добра разумеюць, што тыя, хто не хоча супрацоўнічаць з камуністамі, не з’яўляюцца фашыстамі». У дакуменце падкрэслівалася, што членамі ПСЛ з’яўляюцца сяляне і рабочыя, а «праграма [гэтай] партыі ў пытанні нацыяналізацыі больш прагрэсіўная за камуністычную. Усе польскія партыі аднадушныя ў пытанні супрацоўніцтва з Савецкім Саюзам» [11, s. 387— 388; 12, k. 37— 74].

З такой пазіцыяй Палаты абшчын пагадзілася большасць брытанскіх карэспандэнтаў, якія працавалі ў Польшчы. Амерыканец Ж. Слокам (Slocomb) заўважыў: «Замежная грамадская думка, як еўрапейская, так і пазаеўрапейская, уважліва сачыла за палітычнымі з'явамі ў Польшчы, якія па гарачых слядах каментаваліся ў друку». Прэса на Захадзе фактычна мела «ўплыў на развіццё падзей, пагляд з пэўнай перспектывы», які быў вольны «ад бяльма, якое налеплівала на вочы чытача фразеалогія польскіх газет». Гэты карэспандэнт падкрэсліваў, што ва ўмовах свабоды друку на Захадзе, «свабоды выражэння поглядаў, што характэрна для дэмакратычных дзяржаў, голас, напрыклад, англійскай ці амерыканскай прэсы можна лічыць важным выказваннем грамадскай думкі» [5, The New York Herald Tribune. 5.VIII.1946].

Такой магчымасці не было ў Польшчы і гэта ўсё больш разумелі на Захадзе. Амерыканскія выданні адкрыта пісалі, што камуністычныя ўлады гэтай краіны выкарыстоўвалі «тэхналогію ачарнення» сваіх палітычных праціўнікаў, неслі адказнасць за шматлікія палітычныя забойствы, у тым ліку і польскіх яўрэяў, але імкнуліся альбо замоўчваць справу, альбо без належнага расследавання перадаваць дакументы ў суд. Адзін з амерыканскіх журналістаў так апісваў сітуацыю вакол яўрэйскага пагрому ў Кельцах (1946 г.): «Была здзейснена злачынства, а ўрад, дзе дамінуюць камуністы, імкнецца яго выкарыстаць з мэтай знішчэння апазіцыі. Такім чынам ён звязвае апазіцыйны фактар з келецкім пагромам. Такія метады ўжываюць толькі карумпаваныя паліцэйскія дзяржавы і таталітарныя партыі ва ўсім свеце» [11, s. 248].

Падобнае меркаванне пра Польшчу і метады, якія выкарыстоўвалі камуністы, мела швейцарская прэса. Карэспандэнт Х. В. Хартман пісаў, што «з палітычнага пункту гледжання ў Польшчы назіраецца парадаксальная сітуацыя». У склад урада ўваходзіць шэсць партый, якія «раней аб'ядналіся ў Краёву раду нарадову; тэарэтычна апазіцыі не існуе, а іншыя партыі забаронены». Тым не менш краіна дрыжыць ад палітычнай барацьбы, у якой «нямала драматычных здарэнняў і крывавых сутычак». Гэта барацьба ідзе «паміж кіруючымі партыямі і скончыцца толькі калі нейкая з груп, што змагаюцца, будзе зрынута». Апісваючы польскую палітычную сцэну, журналіст звяртаў увагу на тое, што напрамак дзейнасці ўрада вызначаюць дзве сілы. З аднога боку — камуністы і сацыялісты, якія стаяць блізка да іх, а з другога — ПСЛ на чале з віцэ-прэм'ерам і міністрам сельскай гаспадаркі С. Мікалайчыкам. Што тычыцца іншых партый, то, на думку карэспандэнта, «з пункту гледжання колькаснага складу яны маюць мала значэння і боўтаюцца ў мутнай вадзе камуністаў». Хартман заўважаў, што «дэмакраты і радыкальныя людаўцы, а таксама Стронніцтва працы, якое ў выніку інтрыгі замест хрысціянска-дэмакратычнай партыі стала групай леварадыкальнай большасці», спрычыніліся да значнага пасілення прасавецкага лагера, але «самую вялікую падтрымку сярод народа мела Польскае стронніцтва людова». Нягледзячы на гэта, краінай кіравала меншасць, дзе камуністы «паводле дакладных даных, маючы падтрымку толькі каля 15 % галасоў, задаюць тон». Ён прыгадваў, што найбольш важныя міністэрскія пасады (Міністэрства вернутых зямель, Міністэрства грамадскай бяспекі, Міністэрства прамысловасці) займалі камуністы. Нават часовы прэзідэнт Польшчы Б. Берут быў членам ППР. Радыкальны левы курс прадстаўляў віцэ-прэм'ер і міністр вернутых зямель У. Гамулка, які быў генеральным сакратаром ППР. Дарэчы, пра апошняга Хартман пісаў, што «гэта быў сапраўдны дактрынёр, пазіцыя якога не абяцала нічога добрага яго палітычным праціўнікам». Гамулка абапіраўся на добра арганізаваны, дысцыплінаваны і ўзброены камуністычны актыў, які выхоўваўся ў спецыяльнай школе, заснаванай у 1944 г. у Любліне, а ў 1945 г. перанесенай у Лодзь. Карэспандэнт згадваў, што ўлетку 1946 г. «у Лодзі вучыліся 400 камуністаў, а да гэтага праз 6— 12-месячныя курсы прайшло каля 1300 агітатараў», якія, паводле слоў кіраўніка школы, «як патрыёты будуць выконваць свой абавязак". Хартман адзначаў, што заснаваная ў 1942 г. ППР налічвае «каля 350 тысяч членаў, з якіх 1/3 паходзіць са старой камуністычнай партыі». Ён лічыў, што яе метады дзеянняў адрозніваліся ад камуністычных толькі тым, што члены КПП былі выразна «нацыяналістычна настроеныя» і павінны былі ўлічваць «моцныя антырускія тэндэнцыі ў

сваіх шэрагах». Дарэчы, адзначаў журналіст, у адрозненне ад Чэхаславакіі ў Польшчы кідаецца ў вочы «адсутнасць падчас народных маніфестацый якіх-небудзь чырвоных сцягоў і партрэтаў Сталіна» [5, Neue Zurcher Zeitung. 11.VIII.1946 г.].

**Выснова.** Створаны заходнімі карэспандэнтамі вобраз пасляваеннай Польшчы быў вельмі рэальным і фактычна адлюстроўваў рэчаіснасць. Заходняя грамадская думка добра ўсведамляла, што краіна, аддадзеная пад савецкую «апеку», перастала быць суверэннай дзяржавай. Паўсюль існавала ўпэўненасць у адсутнасці магчымасці для правядзення свабодных выбараў, бо камуністы, баючыся прайграць, пойдуць на фальсіфікацыю. На Захадзе ўсё больш разумелі, што Польшча не па сваёй віне аддаляецца ад еўрапейскіх стандартаў. Такія меркаванні спраўдзіліся, бо, як зараз вядома, вынікі парламенцкіх выбараў 1947 г. былі сфальсіфікаваныя і камуністы прыйшлі да ўлады больш чым на 40 гадоў.

## ЛІТАРАТУРА


1. *Colvin, J.* File missing from record of Churchill blunder on Poland / J. Colvin // The Daily Telegraph. 1.VIII.1973.
2. *Mikołajczyk, S.* Polska zgwałcona / S. Mikołajczyk. Chicago : Wici, 1981. 291 s.
3. *Raack, R. C.* Polska i Europa w planach Stalina / R. C. Raack. Warszawa : Książka i Wiedza, 1997. 268 s.
4. *Turkowski, R.* Polskie Stronnictwo Ludowe w obronie demokracji 1945— 1949 / R. Turkowski. Warszawa : Wydawnictwo Sejmowe, 1992. 348 s.
5. Archiwum Zakładu Ruchu Ludowego (далей — AZHRL). Sygn. 64.
6. *Bliss-Lane, A.* Widziałem Polskę zdradzoną. Ambasador Stanów Zjednoczonych w Polsce w latach 1945— 1947 / A. Bliss-Lane. Warszawa : Krąg, 1984. 172 s.
7. *Kamiński, M. K.* Polska i Czechosłowacja w polityce Stanów Zjednoczonych i Wielkiej Brytanii 1945— 1948 / M. K. Kamiński ; Polska Akademia Nauk, Instytut Historii, Komitet Nauk Historycznych. Warszawa : IH PAN, 1991. 380 s.
8. AZHRL. Sygn. 155. Parlamentarna delegacja w Polsce (styczeń 1946 r.).
9. *Blisse-Lane, A.* I Saw Poland betrayed. An American Ambassador Reports to the American People / A. I. Bliss-Lane. New-York, Indianopolis : The Bobbs-Merrill Company, 1948. 344 p.
10. *Reale, E.* Raporty. Polska, 1945—1946 / E. Reale. Paryż : Instytut Literacki, 1968. 287 s.
11. Komunikaty Polskiego Stronnictwa Ludowego 1946— 1947 / pod red. M. Adamczyka, J. Gmitruka, J. Mazurka. Warszawa : MHPRL, 2002. 668 s.
12. AZHRL PSL. Sygn. 138. Parlamentary debates. Oficjalne sprawozdania z Izby Gmin z 18. X. 1946.


Пераклад з польскай мовы дацэнта кафедры
гісторыі паўднёвых і заходніх славян БДУ Л. А. Козік

## РЕЗЮМЕ

Представлена оценка западноевропейской прессы общественно-политической ситуации в Польше в 1945—1947 гг. Автор описывает условия повседневной жизни поляков и реорганизации партийной системы в Польше, определяет отношение Западных стран к вопросу отсрочки проведения парламентских выборов и коммунистическому террору в отношении политических противников. В статье отмечается, что западная пресса в большинстве своем объективно отражала события в Польше.

## SUMMARY

The West-European press evaluation of the political situation in Poland in 1945—1947 is presented in the article. The author describes the everyday living conditions of poles. Marks the conditions of party system reorganization in Poland and determines the attitude of Western countries to the issue of Parliament elections delay and to the Communist terror in relation to the political opponents. It is mentioned in the article that in the majority of cases Western press showed the real picture of the main events taking place in Poland..

Статья поступила в редакцию 29 августа 2009 г.